



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

22 жніўня 2014 года №34 (1008)



**Ля Нарачы пабілі мінчан**
Мясцовыя хлопцы прыраўнавалі да іх дзяўчат
старонка 4

**Паказанні жыхара гета на допыце 1971 года**
Лазар Мельцар расказвае пра расстрэлы ў валожынскім гета
старонка 21

**У рэгіёне намалацілі больш за 500 тысяч тон збожжа**
с. 3

**Каля мільярда рублёў пайшло на рамонт вілейскага музея**
с. 2

**219 педагогаў прыйшлі ва ўстановы адукацыі**
с. 5


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Школьныя лінейкі адбудуцца 1 верасня

Святочныя лінейкі ў школах нашага рэгіёна пройдуць, як звычайна, 1 верасня. Пра гэта распавялі ў раённых аддзелах адукацыі спорту і турызму. Яшчэ не вызначыліся з датай святочнай лінейкі ў Вілейцы. Яна будзе вядомая на наступным тыдні.

### Пройдзе адзіны дзень скідак

Гандлёвыя пункты Гродзенскай і Мінскай абласцей 24 жніўня робяць скідкі на нехарчовыя тавары ад 10% да 30%. Аблвыканкамы накіравалі рэкамендацыі ўзяць удзел у другой рэспубліканскай акцыі "Адзіны дзень скідак" і знізіць цэны на нехарчовыя тавары як у дзяржаўнай гандлёвай сетцы, так і ў прыватных гандлёвых аб'ектах.

### "Міс Беларусь" са Смаргоні едзе на "Міс свету"

**СМАРГОНЬ.** Конкурс пройдзе ў Лондане ў верасні. **Вікторыя Мігановіч** будзе прадстаўляць Беларусь. У жніўні дзяўчына ляціць у Парыж. Паездка дасталася за перамогу ў конкурсе "Міс Беларусь", які прайшоў на пачатку мая. У сталіцы Францыі Віку чакаюць заняткі па макіяжы і дэфіле, ёга, прафесійная фотасесія.

### Блізіцца свята сярэднявечнай культуры

**ВІЛЕЙКА.** Яно пройдзе на Вілляніным хутары 30 жніўня. Ладзіць свята ваенна-гістарычны клуб "Рыцарскі род снежнага барса" з Мінска. Наведнікаў чакаюць рыцарскія баі. Пройдуць майстар-класы па стральбе з лука, сярэднявечным фехтаванні. Будзе гучаць сярэднявечная музыка. Пачнецца свята ў 16:00. Уваход платны.

**Аддзел інфармацыі.**



# Сутыкнуўся з цягніком: "Асляпіла сонца"



Фота Аляксандра ПАРАХНІ.

Кіроўца паехаў на забараняльны сігнал святлафора на чыгуначным пераездзе і сутыкнуўся з лакаматыўным саставам. Ён і пасажыры не пацярпелі. Як кажуць сведкі аварыі, кіроўца нарадзіўся ў кашулі. На фота ён стаіць справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіроўца "Нісана" сутыкнуўся з манеўровым лакаматыўным саставам на пераездзе каля чыгуначнага вакзала. У аварыі людзі не пацярпелі.**

Здарэнне адбылося каля 18 гадзін у сераду, 20 жніўня.

57-гадовы кіроўца "Нісана" ехаў на забараняльны сігнал святлафора. З ім у машыне было двое пасажыраў, маладых людзей.

Карэспандэнты "РГ" паразмаўлялі з кіроўцам, калі ён разам з пасажырамі мяняў кола ягоная на пуцях.

– Я ехаў, вакол машын не было, – тлумачыць ён. – Сонца мне проста ў твар свяціла і асляпіла. Хуткасць невялікая была, таму саставам развярнула проста. Дзякуй богу, усе жывыя. Машыне рамонт сур'ёзны трэба.

### Нарадзіўся ў кашулі

Маладзечанка **Наталля** ў час аварыі апынулася побач. Ёй трэба было ў два месцы – забраць акуляры ў краме "Оптыка", што ў Доме культуры чыгуначнікаў, і зазірнуць у абутковы шапік каля вакзала.

Пабачыўшы, што дарогу да білетных касаў загарадзіў таварняк, жанчына вырашыла спачатку разабрацца з акулярамі. Хвілін праз дзесяць яна вярталася, але цягнік як стаяў, так і стаіць. Людзі, ужо прынаравіўшыся, проста яго абыходзілі. Тады яна падышла бліжэй, каб паглядзець, што адбываецца.

– Там ужо быў цэлы натоўп, – кажа жанчына. – Усе прадаўцы з бліжэйшых шапікаў павыбягалі глядзець, што здарылася. Справа ў тым, што хвілін за дзесяць да здарэння яны ўсе чулі папераджальны сігнал набліжэння таварняка. А потым яго перарваў гук удару. Людзі толькі і казалі, што кіроўца нарадзіўся ў кашулі, бо ляцеў як шалёны. Як яго магло адкінуць па касой – невядома. Пашанцавала. Сам жа кіроўца, здавалася, спакойна хадзіў вакол машыны і аглядаў, як і што з ёй. Магчыма, быў у шоку. З-пад таварняка ў гэты час выцягвалі пашкоджаную дэталь машыны.

### ДАІ: хуткасць "Нісана" не была вялікая

– ДТЗ на чыгунцы бываюць не часта, адзінкавыя выпадкі, – каментуе сітуацыю дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**. – Кіроўцу, вядома, пашанцавала. Хуткасць была і ў саставу, і ў яго невялікая. Кіроўцам трэба быць надзвычай уважлівымі на чыгунцы. Усе мы памятаем трагічны выпадак на пераездзе ў Алёхнавічах, які адбыўся летась у лістападзе. Тады на месцы загінула трое маладых людзей.

Кіроўцу "Нісана" за парушэнне Правілаў дарожнага руху прадугледжанае пакаранне ад двух да чатырох базавых велічынь (ад 300 да 600 тысяч рублёў).

**Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

АБНАЎЛЕННЕ

# Каля мільярда рублёў пайшло на рамонт музея

**ВІЛЕЙКА. Завяршаецца капітальны рамонт будынка краязнаўчага музея.**

На яго выдаткавана каля мільярда рублёў. Сродкі выдзяляюцца з абласнога бюджэту.

Распачаўся рамонт яшчэ летась. На першым этапе адрамантавалі дах, умацавалі сцены.

Сёлета з пачатку ліпеня праводзілі ўнутраныя работы, уцяплялі фасад. Да будынка падведзеныя водаправод і каналізацыя.

– Капітальны рамонт не праводзіўся з 1983 года, былі толькі бягучыя, – прыгадвае дырэктар музея **Сяргей Ганчар**. – Таму цяпер вырашылі тыя праблемы, што існавалі. Цалкам абноўленая зала, кабінеты навуковых супрацоўнікаў. Значыць, палепшацца ўмовы працы. Гэта вялікая справа – калі будынак у добрым стане.

Завяршыць рамонт мяркуюць у канцы верасня.

Адрамантаваны будынак зменіць выгляд: фасад пафарбуюць у малочна-кававых тонах.

Са студзеня наступнага года пачнецца праца па стварэнні новай экспазіцыі музея.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота з архіва "РГ".

**Вілейскі краязнаўчы музей і выставачная зала імя Нікадзіма Сілівановіча сталі цэнтрам асяроддзя тых, хто цікавіцца гісторыяй і культурай роднага краю. На фота – госці імпрэзы, прысвечанай 30-годдзю вілейскага музея ў 2012 годзе.**


Фота з архіва "РГ".

**Так выглядаў будынак у 2012 годзе.**



Малюнак забяспечаны Сяргеем Ганчаром.

**Так будзе выглядаць будынак.**

ГАСПАДАРЛІВАСЦЬ

## Колькі другасных матэрыяльных рэсурсаў павінна здаць Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль 6 тысяч тон макулатуры, 225 тон шкла, 194 тоны тэкстылю, 505 тон палімераў, 631 тону зношаных шынаў Маладзечанскі раён павінен здаць па нормах.**

Іх вызначаюць для кожнага горада. Усе нормы па здачы другасных матэрыяльных рэсурсаў (ДМР) раён выконвае. Існуе толькі праблема са здачай зношаных шынаў, адзначае вядучы спецыяліст аддзела ЖКГ райвыканкама **Ірына Баброўская.**

### Па ДМР могуць прыехаць і да вас

– У Маладзечне і раёне дзевяць пунктаў прыёму, – гаворыць інжынер вытворча-тэхнічнага аддзела **Васіліна Семчанка**. – Сем стацыянарных і два перасоўныя. Стацыянарныя знаходзяцца на вуліцы Велікасельскай 38-в, Таўлая 7, Паркавай 9, на палігоне цвёрдых адходаў, на вуліцы Набярэжнай у Радашкавічах, у пасёлку Чысць на вуліцы Гастэлы, 10, у пасёлку Беразінскае на базе Беразінскага ЖКУ.

У пунктах прыёму разглядаюцца і індывідуальныя заяўкі. Калі, напрыклад, у вас многа макулатуры, а прывезці вы яе ніяк не можаце, то перасоўны пункт можа прыехаць да вас. Трэба толькі папярэдне дамовіцца з пунктам прыёму.

Старую бытавую тэхніку можна таксама аддаць у пункты прыёму. Папярэдне толькі трэба пакінуць заяўку па нумары **8(0176) 731916.**

Па меры таго, як заяўкі назбіраюцца, службы тэлефануюць, дамаўляюцца на час, у які можна забраць тэхніку.

Прадпрыемствы, якія здаюць макулатуру, не атрымліваюць дадатковых сродкаў на развіццё, нават здаючы яе па льготным тарыфе, адзначае Васіліна Семчанка.

**Галіна СІНІЦА.**


Фота barnaul.sibnovosti.ru.

**Маладзечанскі раён павінны здаць 6 тысяч тон макулатуры за год.**

| Другасныя матэрыяльныя рэсурсы | Кошт за 1 кілаграм |
|---|---|
| Макулатура | 1000 рублёў |
| Шклабой | 700 рублёў |
| Пластыкавая бутэлька | 1500 рублёў |
| Плёнка поліэтыленавая, не брудная | 600 рублёў |

ЗДАРЭННІ

## Астравецкія леснікі высеклі ў заказніку сосны

**АСТРАВЕЦ. Работнікі Спондаўскага лясніцтва Астравецкага лясгаса незаконна высеклі 20 соснаў на тэрыторыі ландшафтнага заказніка "Сарачанскія азёры".**

Сваімі дзеяннямі яны нанеслі шкоду прыродзе ў памеры 128 базавых велічынь.

Факт выявілі 13 жніўня работнікі Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету падчас рэйду на тэрыторыі ландшафтнага заказніка "Сарачанскія азёры".

Справу перадалі ў Астравецкі РАУС, які будзе вырашаць пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы. Расказаў намеснік начальніка Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету **Сяргей Хацяновіч.**

**Галіна СІНІЦА.**

ВЫСТАВЫ

## Краявіды Беларусі і Расіі паказваюць на выставе

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы з 14 жніўня адкрылася выстава "Беларусь-Расія. Пейзажы".**

На ёй можна пабачыць жывапісныя і графічныя працы члена-карэспандэнта Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў **Леаніда Безнаса**.

Працы выкананыя ў розныя часы, расказала навуковы супрацоўнік музея **Валянціна Карзяёнак**. Стварыў іх мастак у розных кутках Расіі і Беларусі. Ёсць карціны, напісаныя падчас адпачынку на Мядзельшчыне.

Выстава будзе працаваць да сярэдзіны верасня.

Апошнім часам працы Леаніда Безнаса неаднаразова выстаўляліся ў мядзельскім музеі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У музеі застануцца працы з пленэра па Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА. У зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея праходзіць выстава "Праклічка стагоддзяў: Першая сусветная вайна і свет сёння".**

Працягнецца яна да пачатку верасня.

На выставе каля трыццаці прац. Адлюстроўваюць яны погляд сучаснікаў на падзеі Першай сусветнай.

Стварылі карціны мастакі з Беларусі, Расіі і Украіны. Яны – удзельнікі міжнароднага культурна-асветніцкага праекта, які праводзіла грамадская арганізацыя "Беларускі Зялёны Крыж".

Летась мастакі пабывалі на пленэры ў Вілейскім, Смаргонскім і Мядзельскім раёнах. Там знаёміліся з мясцінамі, звязанымі з падзеямі Першай сусветнай вайны. На выставе можна пабачыць карціны, натхнёныя вандроўкай у гэтыя рэгіёны.

Пасля таго, як выстава праедзе па Беларусі, некалькі прац перададуць у вілейскі музей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



● ГАСПАДАРКА

# У рэгіёне намалацілі больш за 500 тысяч тон

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета на Маладзечаншчыне сабралі на 21 тысячу тон збожжа больш, чым летась. Ураджайнасць павысілася на 7%.**

Пра гэта паведаміла намесніца начальніка ўпраўлення па раслінаводстве ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама **Аляксандра Харук**.

– Мы ўзялі крэдыт і закупілі ўгнаенні, своечасова апрацавалі зямлю. Садзейнічала і надвор'е. Добра папрацавалі, і атрымалі аддачу, – ацаніла поспех спецыяліст.

Лідары гаспадарак па ўраджайнасці ў раёне размеркаваліся наступным чынам (у цэнтнерах з гектара):

1. ААТ "Заскавічы" – 60,1
2. Філіял "Маркава" ААТ "Маладзечанскі райаграсэрвіс" – 57,5
3. ААТ "Гарадзілава" – 55,2

Сярод 15 гаспадарак сем сабралі больш за 50 цэнтнераў з гектара.

У раённым спаборніцтве вызначыліся таксама ААТ "Хоўхлава" і "Селеўцы".

"Маладзечанская сортавыпрабавальная станцыя" сёлета сабрала 67 цэнтнераў з гектара.

**ВІЛЕЙКА. "Нарачанскія зоры" сталі лідарамі ў жніве на Вілейшчыне.**

Па выніках жніва ў Вілейскім раёне лепшым стала таварыства "Нарачанскія зоры". На другім месцы – ААТ "Сцешыцы", на трэцім – філіял "Усходні" Вілейскага камбікормавага завода.

Вынікі сярод камбайнераў падвялі па дзвюх групах.

Паміж экіпажаў камбайнаў "Дон-1500" і "Ліда-1300" найлепшыя вынікі ў **Руслана Садоўскага** і **Аляксея Драчылоўскага** з таварыства "Нарачанскія зоры".

Сярод экіпажаў, якія працавалі на больш магутных камбайнах, перамаглі **Пётр Седы** і **Аляксандр Чараўка** з таварыства "Даўгінава".

Аператыўныя дадзеныя ў інфаграфіках паводле зводак Мінскага і Гродзенскага аблвыканкамаў.

**Падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Алесь ВЫСОЦКІ.**




| Раён | Намалацілі тон | Ураджайнасць |
|---|---|---|
| Маладзечанскі | 87 884 | 46,5 |
| Вілейскі | 82 610 | 30,4 |
| Валожынскі | 84 630 | 34,9 |
| Мядзельскі | 39 361 | 26,5 |
| Смаргонскі | 76 387 | 42,8 |
| Астравецкі | 78 884 | 43,6 |
| Ашмянскі | 62 604 | 36,8 |

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.




Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 14.08 | 21.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 370,00 | **10 390,00** |
| Еўра | 13 840,00 | **13 820,00** |
| Злоты | 3 299,50 | **3 303,55** |
| Літ | 4 010,60 | **4 000,15** |
| Расійскі рубель | 286,50 | **287,00** |
| Грыўня | 800,77 | **787,12** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13810/13900 | **13770/13860** |
| Долар ЗША | 10340/10390 | **10360/10410** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.08 | 20.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 144900 | **144900** |
| Сасіскі, 1 кг | 51900 | **51900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 30500 | **29800** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 110000 | **115000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 28500 | **26900** |
| Селядзец, 1 кг | 24900 | **35000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 103800 | **103800** |
| Рыс, 0,9 кг | 14200 | **14200** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 10800 | **13500** |
| Маянэз, 200 г | 5650 | **5650** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 30000 | **30000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 8300 | **9350** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7000 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5000 | **5500** |
| Морква, 1 кг | 7000 | **6500** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5500** |
| Лімоны, 1 кг | 28000 | **39000** |
| Апельсіны, 1 кг | 18000 | **16500** |
| Мандарыны, 1 кг | 23000 | **21500** |
| Памідоры, 1 кг | 7850 | **7500** |
| Агуркі, 1 кг | 10000 | **8500** |
| Кавун, 1 кг | 6500 | **5500** |
| Дыня, 1 кг | 13500 | **11500** |
| Вінаград, 1 кг | 26000 | **27000** |
| Бананы, 1 кг | 12000 | **11500** |
| Яблыкі, 1 кг | 13000 | **10500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 33000 | **23900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 45000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |

● ГРАМАДСТВА

## 50 чалавек падпісаліся, каб не мянялі расклад руху аўтобусаў

**ВАЛОЖЫН. Аўтапарк №14 сабраў подпісы тых, хто просіць пакінуць без змяненняў маршруты руху аўтобусаў Дзясятнікі-Мінск, Вайганы-Валожын, Багданава-Валожын.**

– І гэта яшчэ толькі частка тых, хто не хоча ніякіх змяненняў, – кажа начальнік аддзела перавозак і маркетынгу Валожынскага аўтапарка №14 **Канстанцін Рэут**.

Нагадаем, у папярэднім нумары "РГ" мы пісалі пра тое, што **Пётр Рубан** незадаволены рэйсам аўтобуса Валожын-Вайганы. І ён казаў, што гэта меркаванне большасці жыхароў Вайганаў. Пётр Іосіфавіч хацеў, каб аўтобус вяртаўся ў вёску не ў гадзіну дня, а пазней, прыкладна каля чатырох дня.

На гэта Канстанцін Рэут прапанаваў сабраць подпісы тых, хто супраць змяненняў, і тых, хто за.

Колькі апошніх, пакуль што пытанне адкрытае. Спадар Пётр, які большую частку часу праводзіць у Маладзечне, а меншую – у Вайганах, не захацеў губляць здароўе з-за збору подпісаў. І пакінуў гэту справу мясцовым жыхарам разам з нумарамі рэдакцыі і мясцовых уладаў.

Пакуль што званкоў ад іншых жыхароў Вайганаў не было. Калі ж не будзе подпісаў – справа з месца не зрушыцца.

– Калі будуць подпісы, то жыхары могуць з імі ісці да нас. Мы абкатаем маршрут і паглядзім, ці ён запатрабаваны. Будуць людзі ім ездзіць – будзе рэйс, – падагуліў Канстанцін Рэут.

**Настасся РОЎДА, Галіна СІНІЦА.**

Директору филиала АП №14 Якушу А.В.

Просим Вас оставить без изменений маршруты движения автобусов «Десятники-Минск», «Войганы-Воложин», «Богданово-Воложин». Заранее благодарны.

Фота Насці РОЎДА.

Аўтапарк сабраў 50 подпісаў.

КРЫМІНАЛ

# Ля Нарачы пабілі мінчан

## Мясцовыя прыраўнавалі да іх дзяўчат

**МЯДЗЕЛ. Збіццём скончылася рамантычная прагулка ў к. п. Нарач (Купа).**

Позна ўвечары 12 жніўня ля ўзбярэжжа возера Нарач два юныя жыхары Мінска прагульваліся з дзяўчатамі. Да іх падбеглі два хлопцы і збілі. Наносілі ўдары па тварах і тулаве, у тым ліку драўлянай палкай. Юнакам прычынілі цялесныя пашкоджанні.

Хуліганаў хутка адшукалі. Гэта былі два мясцовыя хлопцы (адзін з іх – непаўналетні), расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Аляксандр Штура**.

Па папярэдняй інфармацыі, прычынай нападзення стала жаданне правучыць мінчан, бо тыя прагульваліся з мясцовымі дзяўчатамі.

Нарачанцы затрыманыя, знаходзяцца ў ізалятары часавага ўтрымання. Узбудзілі крымінальную справу за асабліва злоснае хуліганства.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота oboika.ru.

Рамантычная прагулка ля Нарачы скончылася бойкай. Мясцовыя хлопцы пабілі мінчан, прыраўнаваўшы іх да дзяўчат.

УВАГА! ВЫШУК

## Мужчына знік у Вязынцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Міліцыя шукае зніклага Леаніда Рыгоравіча Бізюка.**



Ён нарадзіўся 14 красавіка 1949 года (65 год) на Маладзечаншчыне, жыве ў Мінску.

13 жніўня ён быў у Вязынцы. Каля 23 гадзін пайшоў з дому, і дагэтуль невядома, дзе ён.

На выгляд 65-70 год, смуглы твар, шэрыя вочы, глухі голас.

Быў апрануты ў светла-шэрыя штаны, цёмна-шэрую майку з кішэняй на грудзі, чорныя чаравікі.

Зніклы курыць.

Асаблівыя прыкметы: незразумелае маўленне, не арыентуецца ў навакольным асяроддзі, кепскі зрок.

Пераканаўча просім усіх, хто ведае аб месцы знаходжання зніклага, паведаміць у Маладзечанскі райаддзел міліцыі па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56** ці **102.**

Андрэй КАВАЛЁНАК, оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.

ЗДАРЭННІ

## Мужчына загінуў у траншэі

**ВАЛОЖЫН.** 14 жніўня ў вёсцы Шапавалы Ракаўскага сельсавета а палове другой адбылося няшчаснае здарэнне.

30-гадовы мужчына выкапаў траншэю паўтара метра глыбінёй і злучаў у ёй водаправодныя трубы. У гэты час на яго абвалілася зямля.

Спачатку дамачадцы не заўважылі яго адсутнасці. Праз некаторы час знайшлі ў траншэі, вынялі адтуль. Яны і паведамілі аб здарэнні.

"Хуткая дапамога" канстатавала смерць.

## Маланка спаліла хлеў

**ВАЛОЖЫН.** 14 жніўня каля васьмі гадзін раніцы ў Ракаўскім сельсавеце ў вёсцы Юржышкі загарэўся драўляны хлеў.

Выратавальнікаў выклікаў гаспадар дома.

У выніку пажару абваліўся дах, хлеў выгараў знутры. У ім згарэлі сена, дровы, гаспадарчая маёмасць.

Прычына пажару – удар маланкі.

Аб гэтым паведаміла інспектар групы прапаганды і навучання Валожынскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алеся Радвіловіч**.

Галіна СІНІЦА.

КРАДЗЕЖ

## Скраў тэлефон у калегі на будоўлі

**МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА. Раскрылі крадзеж, які адбыўся ў к. п. Нарач (Купа).**

У міліцыю 28 ліпеня звярнуўся будаўнік з Маладзечна. Ён працаваў на будоўлі шматкватэрнага дома. У бытоўцы знік мабільны тэлефон LG коштам тры з паловай мільёны рублёў, навушнікі і 100 тысяч рублёў.

Пад падазрэнне трапіў 47-гадовы калега будаўніка, бо пасля знікнення рэчаў ён не выйшаў на працу.

Праз некалькі дзён раней судзімага мужчыну знайшлі ў Маладзечне. Тэлефон паспеў прадаць, а выручаны грошы часткова патраціў.

Маладзечанца арыштавалі. Тэлефон знайшлі і вярнулі ўладальніку, паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Аляксандр Штура.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

АКЦЫІ

## Ладзяць акцыю па бяспецы дзяцей

**МАЛАДЗЕЧНА. Яна прымеркаваная да Дня ведаў. Праходзіць ад 20 жніўня да 30 верасня.**

Акцыя "У цэнтры ўвагі – дзеці" ўключае ў сябе тры этапы.

Першы этап пройдзе ад 20 да 31 жніўня. Работнікі гарраймаддзела па надзвычайных сітуацыях правядуць інфармацыйна-тлумачальную работу з бацькамі. Адбудзецца гэта ва ўнівермагу "Маладзечна", гандлёвых цэнтрах "Модуль" і "Спадарожнік".

Другі этап будзе праходзіць ад 2 да 15 верасня ў агульнаадукацыйных установах на школьных лінейках і класных гадзінах.

Апошні этап пройдзе ў дашкольных установах адукацыі ад 15 да 30 верасня.

Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС .

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Скралі ровар з прыватнага двара

**МАЛАДЗЕЧНА**. З гаспадарчай пабудовы ў двары дома №17 па вуліцы Міцкевіча невядомы скраў ровар.

Здарэнне адбылося паміж 15 і 18 гадзінамі 5 ліпеня. Скрадзены ровар замежнай вытворчасці, LTD Viper 24.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра гэта здарэнне, паведаміць па тэлефоне **(80176) 58-07-83** з 9 да 18 гадзін у рабочыя дні.

Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта.

СЛУЖБА 101

## Пенсіянер загінуў у пажары

**ВІЛЕЙКА.** Каля дзесяці гадзін вечара 13 жніўня загарэўся жылы дом ў вёсцы Асінаўка Асіпавіцкага сельсавета па вуліцы Цэнтральнай.

Аб гэтым выратавальнікам паведаміла суседка. На пажар выехалі чатыры падраздзяленні МНС і "хуткая дапамога".

Унутры дом быў моцна задымлены. У пакоі, дзе быў пажар, на ложку знайшлі 61-гадовага мужчыну. Выратаваць яго ўжо было немагчыма.

У пажары пашкоджана мэбля, закураныя сцены.

Прычыны пажару высвятляюцца. Папярэдняя версія – неасцярожнае курэнне ў пакоі.

Жыў мужчына адзін, яго наведвалі дзеці. Яны жылі ў суседняй вёсцы.

Аб гэтым распавяла інспектар групы прапаганды і навучання Вілейскага РАНС **Надзея Літвіновіч**.

## Пайшоў спаць, дом гарэў далей

**СМАРГОНЬ.** 17 жніўня загарэўся жылы дом у вёсцы Солы па вуліцы Палявой.

Па словах сына гаспадара, каля дзвюх гадзін ночы ён прачнуўся ад гуку пажарнага апавяшчальніка. Убачыў, што гарыць ложак, паўсюль дым, і разбудзіў бацьку. Разам яны выйшлі ў летнюю кухню.

Пасля сын з вядром вады вярнуўся ў хату, каб затушыць агонь. Выліўшы ваду, ён пайшоў спаць у летнюю кухню. Аднак прынятых мер аказалася недастаткова. Ложак тлеў далей. Гэта і прывяло да пажару.

У пяць гадзін раніцы аб пажары выратавальнікам паведаміў сусед, які прачнуўся ад трэску.

Агонь пашкодзіў дах, маёмасць, часткова сцены.

У доме жылі 74-гадовы бацька-пенсіянер і 47-гадовы сын. Цяпер яны будуць жыць у летняй кухні.

Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

Аб гэтым паведаміла спецыяліст групы прапаганды і навучання райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Таццяна Русаковіч**.

## Дзіцячае свавольства прывяло да пажару

**СМАРГОНЬ.** 16 жніўня ў восем гадзін вечара загарэўся блочны хлеў у вёсцы Сыраваткі па вуліцы Новай.

Прычына пажару – дзіцячае свавольства, у выніку якога згарэў дах.

Аб гэтым паведаміла спецыяліст групы прапаганды і навучання райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Таццяна Русаковіч**.

## Пра пажар паведамілі з суседняй вёскі

**МАЛАДЗЕЧНА.** 17 жніўня ў сем гадзін вечара загарэўся жылы дом у вёсцы Бабры.

Ён знаходзіўся на хутары. Выратавальнікаў выклікалі жыхары суседняй вёскі.

У выніку пажару абрынуўся дах, часткова перакрыцце, знутры і звонку абгарэлі сцены.

Цяпер высвятляюцца прычыны пажару. Аб гэтым паведаміла інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Таратута**.

Галіна СІНІЦА.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Кіроўца збіў чатырохгадовага хлопчыка

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося 16 ліпеня каля 20 гадзін у вёсцы Раеўшчына па вуліцы Міру.

Кіроўца аўто "Фольксваген-Гольф" наехаў на чатырохгадовага хлопчыка. У выніку дзіця атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Просім кіроўцаў і відавочцаў аварыі звярнуцца ў аддзел ДАІ ў кабінет 12 ці 18.

Тэлефоны **(80176) 74-53-40, 74-53-45, 74-68-41** ці **102.**

## Пройдзе экзамен для матацыкліста

У пятніцу, 29 жніўня, у 8 гадзін будуць прымаць экзамены па Правілах дарожнага руху і кіраванні матацыклам.

Ахвотных зарэгіструюць па адрасе: вуліца Віленская, 64. Тэлефон: (80176) 73-48-00.

## Працягваюць "Бяспечнае лета"

ДАІ Мінскай вобласці да канца жніўня праводзіць акцыю па прафілактыцы аварый з удзелам дзяцей.

ДАІ просіць кіроўцаў выкарыстоўваць дзіцячыя крэслы, быць пільнымі пры перавозцы дзяцей.

Акцыя распачалася ў ліпені.

Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.


Фота забяспечана Юліяй ЧАРНЕНКА.

Юлія Чарненка — выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, педагог-псіхолаг.


Фота забяспечана Віталём ЧАРАПОВІЧАМ.

Віталь Чарапавец — выпускнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры, настаўнік фізічнай культуры.

● АДУКАЦЫЯ

# 219 педагогаў прыйшлі ва ўстановы адукацыі

**РЭГІЁН. Сёлета ва ўстановах адукацыі ў нашым рэгіёне з'явілася 219 маладых спецыялістаў.**

Чаму маладыя людзі вырашылі атрымаць спецыяльнасць педагога? Ці будуць працаваць у школе пасля заканчэння размеркавання? Дзе будуць жыць? На гэтыя пытанні нам адказалі маладыя настаўнікі.

### Доўгі час не ведала, куды пступаць

**Юлія Чарненка** будзе працаваць педагогампсіхолагам у Людвіноўскай сярэдняй школе. Сама яна жыве з бацькамі ў Вілейцы. Ездзіць на працу будзе на аўтобусе. Праблемы ў гэтым не бачыць.

Дзяўчына доўгі час не магла вызначыцца, куды паступаць. Вырашыла падаць дакументы ва ўніверсітэт імя Максіма Танка на педагога-псіхолага.

– Напэўна, на мой выбар паўплывала мая бабуля, – разважае Юлія Чарненка. – Яна працавала настаўніцай пачатковых класаў, часта займалася са мной, прыдумляла цікавыя гульні. Мне таксама цікава працаваць з малымі дзецьмі.

У сваім характары дзяўчына хоча сумясціць мяккасць сваёй першай настаўніцы і патрабавальнасць, строгасць настаўніка беларускай мовы і літаратуры.

– Для маёй першай настаўніцы, **Людмілы Новік**, – гаворыць маладая настаўніца, – усе дзеці былі роўныя, яна не адзначала нейкага аднаго вучня. Старалася пасябраваць з намі, жыць нашымі дзіцячымі клопатамі.

Запомнілася яна сваім мяккім характарам, ніколі не крычала на нас. Таксама ўзгадваю дырэктара нашай трэцяй школы **Мікалая Гіро**. Ён выкладаў беларускую мову і літаратуру. Быў вельмі патрабавальным чалавекам, таму дамашнія заданні ў класе рабілі ўсе, стараліся вучыць правілы. Калі ён кагосьці хваліў, гэта было найлепшай ацэнкай старанняў і ведаў вучня.

### "Дзеці ледзьве не давялі мяне да слёз"

Юлія Чарненка лічыць, што з дзецьмі працаваць складана, але цікава. Маладая настаўніца ўзгадвае, як у дзіцячым лагеры "Гарызонт" яе ледзьве не давялі да слёз.

– З дзецьмі развучвалі танец, – гаворыць настаўніца. – Здавалася, што ўсё вельмі проста. Я паказала рухі, якія трэба рабіць. Аднак ніяк не атрымоўвалася арганізаваць дзяцей.

Адзін пачынаў свавольнічаць і смяяцца, за ім ўтаралі астатнія. Я не ведала, як іх супакоіць. Здавалася, што я нічога не вартая, бо не магу справіцца з малымі дзецьмі. Праз некалькі хвілін сабралася, стала больш строгая. Дзеці заўважылі гэта, пачалі слухацца. Танец мы падрыхтавалі.

Настаўніца і ў далейшым плануе працаваць ва ўстанове адукацыі псіхолагам, але не ў школе, а ў дзіцячым садку.

### Вучыўся на фізрука, бо хацеў звязаць жыццё са спортам

У сярэдняй школе №1 у Вілейцы з'явіўся малады настаўнік фізічнай культуры **Віталь Чарапавіч**. Ён вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце фізічнай культуры на факультэце спартыўных гульняў.



Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

Маладому чалавеку вельмі падабалася займацца валейболам. Аднак не ведаў, якім чынам можна звязаць свой лёс са спортам, таму вырашыў паступаць на настаўніка фізічнай культуры. Вялікі ўплыў на яго аказаў настаўнік фізічнай культуры ў вёсцы Людвінова **Сяргей Панарад**:

– Ён даваў магчымасць адчуць, што мы нечага вартыя, што мы можам дасягнуць перамог у спорце. Разам з ім мы ездзілі на спартыўныя спаборніцтвы па валейболе ў Мінск, у аздараўленчы комплекс "Надзея" каля Вілейскага вадасховішча.

### "Мая педагагічная дзейнасць можа закончыцца арміяй"

Малады настаўнік не хвалюецца перад першым верасня, перад сустрэчай з вучнямі:

– Звычайна малады настаўнікаў вучні добра прымаюць у школе, – аптымістычна гаворыць Віталь Чараповіч. – Асабліва ў старэйшых класах, калі паміж вучнямі і настаўнікам амаль не бачна розніцы. Але трэба знайсці мяжу, каб панібрацкіх адносінаў не было.

– Галоўная задача настаўніка, – працягвае ён, – навучыць, а не пасябраваць з дзецьмі. Настаўніку трэба быць у меру строгім, патрабавальным, але дзеці не павінны яго баяцца.

Малады чалавек жыве ў вёсцы Людвінова. Пакуль ездзіць на працу на аўтобусе. З пачаткам навучальнага года яму абяцалі даць інтэрнат ад вілейскага каледжа.

Віталь Чараповіч пакуль не ведае, ці будзе і далей працаваць у школе. Нядаўна яму прыйшла павестка з ваенкамата. Цяпер ён праходзіць медыцынскую камісію. Магчыма, педагагічная дзейнасць для яго закончыцца ў снежні, калі яго забяруць у армію.



Галіна СІНІЦА.
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ



## Хто адказны за дзіцячыя пляцоўкі "скруці шыю"

**МАЛАДЗЕЧНА. Да каго звяртацца і каму скардзіцца, калі ў вашым двары дзіцячыя пляцоўкі відавочна небяспечныя для дзяцей.**

Сёлета маладзечанка **Алена** амаль усё лета праводзіла з малым сынам не ў кватэры, а ў сваім доме. І жылі яны ў гэты час непадалёк ад гарадскога стадыёна. Там яна і запрыкмеціла злашчасную пляцоўку.

– Горка, якая мяне вельмі непакоіць, стаіць у двары ў мікрараёне Гелянова, – кажа маладая маці. – Высачэзная, здравенная і крывая. Каб падсадзіць на яе сына, то я не дацягнуся. Да зямлі яна не дастае, і можна няслаба ўдарыцца. Там увогуле з усёй пляцоўкай праблемы.

**Паводле Закона "Аб правах дзіцяці", кожнае дзіця мае неад'емнае права на ахову і ўмацаванне здароўя.**

### Звяртайцеся ў домакіраўніцтва

Намеснік начальніка домакіраўніцтва №1 **Андрэй Чаеўскі** параіў Алене звяртацца да іх.

У гэтым выпадку супрацоўнікі разам з ёй паглядзяць пляцоўку і вырашаць, трэба ці не трэба штосьці на ёй мяняць.

– Інакш мы паглядзім, пераробім, а пасля жыхары дамоў побач, якім падабалася ранейшая пляцоўка, застануцца незадаволеныя, – тлумачыць Андрэй Чаеўскі. – Ужо былі выпадкі, калі адны за тое, каб перараблялі, а іншыя – супраць.

Як зазначыў намеснік начальніка домакіраўніцтва, пляцоўкі аглядаюць амаль кожны тыдзень. За іх станам назіраюць дворнікі і майстры.

Сёлета некаторыя з пляцовак рамантавалі.

**Гаспадар тэрыторыі, якая прылягае да будынка, мусіць падтрымліваць у тэхнічна спраўным стане гульнявыя і малыя архітэктурныя формы на ёй: рамантаваць, фарбаваць. Патрабаванне паводле Тэхнічнага кодэкса "Тэхнічная эксплуатацыя жылых і грамадскіх пабудоў. Парадак правядзення".**

Настасся РОЎДА.

## Якую службу выклікаць, калі заўважылі збітую жывёліну

**З такім пытаннем звярнулася да нас чытачка Святлана з Маладзечна:**

– Некалькі дзён ляжаў збіты коцік ля дарогі ўздоўж парку. Штодзень ходзім там з шасцігадовай дачкой, вяду яе ў садок. Спачатку сказала дачцэ, што коціка хутка дактары забяруць, а пасля яна праходзіла тое месца, заплюшчваючы вочы.

Пазней жывёлу прыбралі. Але ці можна ў такіх выпадках да некага звяртацца, каб збітыя жывёлы не ляжалі на дарозе некалькі дзён?

На пытанне адказвае начальнік аддзела па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб УП "Камунальнік" **Таццяна Мажуль**:

– Ёсць спецыяльнае падраздзяленне "Спецаўтагаспадарка". Сярод іх задач ёсць уборка і ўтылізацыя жывёл, збітых на дарозе. Ім можна патэлефанаваць і паведаміць пра збітую жывёліну. Жыхары раёна таксама могуць звяртацца да іх.

**Тэлефон "Спецаўтагаспадаркі", па якім можна паведаміць пра збітую жывёліну: (80176) 73-19-16.**

Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.

● МЕРКАВАННІ

# Дэбаты: ці варта аддаваць грошы на мемарыялы

## Меркаванні выказваюць неабыякавы чытач "РГ" Леў Чырвонцаў і беларускі скульптар Уладзімір Церабун

**СМАРГОНЬ. Куды лепш пусціць грошы: у развіццё культуры ці развіццё медыцыны? А можа, у адукацыю ці будаўніцтва дарог? Сёння над гэтымі пытаннямі разважаюць людзі, прозвішчы якіх неаднаразова з'яўляліся на старонках газеты.**


Фота з архіва "РГ".

Леў Чырвонцаў, жыхар Маладзечна, неабыякавы чалавек.


Фота з архіва "РГ".

Уладзімір Церабун, беларускі скульптар, родам са Смаргоні.

Аднак заўтра тут можа быць і ваша прозвішча. Мы запрашаем вас да дыскусіі. Падзяліцеся сваім меркаваннем з рэдакцыяй. Дасылайце лісты звычайнай ці электроннай поштай.

### Піша Леў Чырвонцаў

Неаднаразова "Рэгіянальная газета" пісала пра будаўніцтва мемарыяльнага комплексу ў Смаргоні, прысвечанага падзеям Першай сусветнай вайны.

Гэта падзея заслугоўвае таго, каб спакойна і ўдумліва паразважаць, што і чаму адбылося сто гадоў таму, і якія высновы трэба зрабіць цяпер.

На першы погляд праекціроўшчыкі і тыя, хто прымаў рашэнне аб будаўніцтве, хварэюць застарэлай расійскай хваробай – гігантаманіяй.

Для Беларусі з такім размахам гэта рабіць не трэба. Нічога гераічнага, на мой погляд, для Беларусі і для Расійскай імперыі, акрамя смерці мільёнаў людзей, няма. У тым ліку беларусаў, забітых, вывезеных з роднай зямлі. Гэтая вайна толькі наблізіла Кастрычніцкі пераварот у Расіі.

Не прамінулі на мемарыяле "подчеркнуть единство" дзяржавы і царквы. На высокім пастаменце вялізны анёл уручае меч ваяру, якога нехта назваў "крылатым геніем воінскай славы". Выходзіць, і з анёлаў бываюць геніі.

Значыць, Бог блаславляе забойства людзей? Першай жа Расія ўварвалася на тэрыторыю Усходняй Прусіі. Не ўручаць, а ламаць мячы павінен бы заклікаць Бог. І заклікаць да міру, а не да вайны, у якой загінула больш за 20 мільёнаў чалавек.

Падчас Нарачанскай аперацыі царскія войскі панеслі велізарныя страты. Толькі другая армія страціла 78,5 тысячы чалавек, сярод іх 12 тысяч абмарожаных і замерзлых, пяць тысяч трупаў было знята з германскіх драцяных загародаў…

Прайшло сто гадоў, а выходзіць, нічому не навучыліся.

Не грэх бы апублікаваць, колькі мільярдаў рублёў ужо затрачана на гэты мемарыял і колькі яшчэ хочуць затраціць.

А тым часам, каб вельмі хворым людзям патрапіць у бальніцу, трэба запісвацца і чакаць. Усюды чарга. Відаць, хутка ўвядуць плату за наведванне паліклінікі, каб зрабіць мармуровыя дарожкі да новага гераічнага мемарыяла або да лініі Сталіна.

У Вілейскім раёне многа пахаванняў удзельнікаў Першай сусветнай вайны. Дзякуючы такім руплівцам, як **Анатоль Рогач**, **Сымон Барыс**, **Барыс Цітовіч**, **Віталь Кастэнка**, і многім іншым, улюбёным у сваю зямлю, шмат пахаванняў прыведзена ў парадак. Проста, сціпла, з любоўю да сваёй зямлі і спачуваннем загінулым.

На гэтых пахаваннях міжволі задумваешся, ці правільна пражыў жыццё, што трэба рабіць, каб такая навала не паўтарылася. І ніякага гераізму, ніякіх мячоў і ніякіх "геніяў воінскай славы".

### Адказвае Уладзімір Церабун

Аднойчы я натрапіў на перадачу па тэлебачанні. Расказвалі пра спектакль Чэхава "Чайка". Трупа з Санкт-Пецярбурга была з ім у Японіі, непадалёк ад Токіа. Пастаноўку паказвалі моладзі адной з навучальных устаноў Японіі.

І акцёр расійскай трупы Алег Басілашвілі запытаўся ў дырэктара навучальнай установы:

– Навошта вы выдаткавалі такія грошы, каб прыехаў наш спектакль?

– Калі праз 20 год хоць адзін з навучэнцаў успомніць пра гэты спектакль, Японія стане толькі багацейшай.

Колькі грошай пайшло на мемарыяльны комплекс? Я магу сказаць. Ужо шэсць мільярдаў. Чатыры даў райвыканкам, яшчэ два – аблвыканкам. Крыху больш за пяць мільярдаў трэба на тое, каб заплаціць будаўнікам за ўжо зробленую імі працу. А на тое, каб закончыць цалкам першую частку мемарыяла – чарговыя шэсць. Агулам трэба дзесьці 18 мільярдаў. Гэта прыкладна паўтара мільёна долараў.

Але што гэта за грошы, калі гаворка ідзе пра Першую сусветную вайну? Асабліва цяпер. Калі мы бачым, што адбываецца ў Іране, Іраку, Сірыі, Украіне. Гэта мізэрныя грошы, калі зірнуць на значнасць таго, што мы будуем.

Чаму людзі заўсёды падлічваюць гэтыя грошы? Колькі іх чалавеку ні дай – будзе мала. Так ёсць і было заўсёды.

Няўжо ахвяры вайны недастойныя таго, каб пра іх памяталі? Няўжо недастойныя такога мемарыяла?

Бачыць будучыню без памяці аб мінулым, забыцца на нашу гісторыю – вялікі грэх.

Цяпер мы займаемся першай часткай мемарыяльнага комплексу. Другая частка будзе месціцца ў вёсцы Хадакі. У яе аснове – скульптурная кампазіцыя "Праклянце вайне". Салдат, утыркнуўшы вінтоўку ў зямлю, крычыць у нябёсы і шле праклён вайне. На брустверы – назвы 38 краін, яе удзельніц. Перад скульптурай на зямлі – карта свету. А на пастаменце – надпіс: "Будзь праклятая ты, вайна". А побач з гэтай кампазіцыяй сямнаццаць жывых дотаў, сведкаў той вайны.

Анатоль Рогач, Сымон Барыс, Барыс Цітовіч, Віталь Кастэнка, згаданыя вышэй, сапраўды займаліся і займаюцца вартымі справамі.

Цяпер я таксама хачу сабраць групу зацікаўленых людзей, разам з якімі мы б маглі заняцца добраўпарадкаваннем дотаў, якія засталіся пасля Першай сусветнай. Каб маглі збіраць матэрыялы для будучага музея. Да прыкладу, нядаўна адкрыўся музей Першай сусветнай пад Санкт-Пецярбургам у Царскім Сяле. Там ужо звыш пяці тысяч экспанатаў, якія дасылалі самі расіяне.

Чаму нам не пачаць збіраць дакументальныя звесткі пра вайну? Чаму нам цяпер не падлічыць, колькі мы маем сапраўдных дотаў? Чаму не нанесці іх на карту, каб можна было вазіць туды людзей? Чаму не ўзяць трох-чатырох экскурсаводаў, якія б паказвалі людзям мемарыял, вазілі да дотаў, расказвалі пра падзеі вайны. Трэба зарабляць культурай грошы. Вядома, мы не пакрыем усе затраты грашыма, але пакрыем духоўна.

Сёння, у будны дзень, я быў там, і літаральна за паўгадзіны да мемарыяла прыйшоў 21 чалавек. Я пацікавіўся, двое з іх былі з Літвы. І гэта моладзь! Няўжо гэта не дасягненне?

Вы лічыце мемарыял гігантаманіяй?

Як сказаў некалі вядомы кінематаграфіст Аляксандр Сакураў, "зжыць смяротнае забойства ўнутры чалавека наўрад ці калі-небудзь удасца. Але імкнуцца да надання высакароднасці душы – галоўная задача мастацтва".

Я 40 гадоў у творчасці і нясу адказнасць за тое, што раблю. Тут няма гігантаманіі. Гэта вельмі сціплы, але знакавы і велічны комплекс. І ён дасягае сваёй манументальнасці не з-за вялікіх памераў скульптур, а за кошт добраўпарадкавання і архітэктурна-планіровачнага рашэння.

Аднак тое, што мы робім, вельмі значнае для будучых пакаленняў.

Як сказаў аднойчы старажытнагрэчаскі пісьменнік Лонг, "таму, хто адважваецца ставіць помнікі на зямлі, прасякнутай крывёю, павінна быць уласцівае высокае пачуццё адказнасці".

І я пра гэта заўсёды памятаю.

**Настасся РОЎДА.**

**Дасылаць свой ліст вы можаце на адрас: г. Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а. Альбо на электронную пошту: regionnews@rh.by.**

**Апытанне на гэтую тэму чытайце на 24-й старонцы.**


Фота забяспечана Сцяпанам АЎСЮКЕВІЧАМ.

Сцяпан Аўсюкевіч – мастак, рэстаўратар. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Валожыне.

● ВЫСТАВЫ

## Вучыўся на трактарыста, стаў мастаком

**АШМЯНЫ. Ён уцякаў з арміі, займаўся рэстаўрацыяй алтароў у некалькіх храмах нашага рэгіёна, а ў карцінах не імкнецца паказваць жыццё ідэальным.**

Персанальная выстава мастака **Сцяпана Аўсюкевіча** "Погляд з-пад пэндзля" адкрылася 15 жніўня ў краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча ў Ашмянах.

### Яго выстава – партрэты мясцовых людзей

Карціны Сцяпана Аўсюкевіча на гэтай выставе – нібы летапіс часу, у які жыве, людзей, з якімі кантактуе. Мастак вырашыў паказаць на ёй толькі партрэты. Сярод іх – валожынскія медыкі, мясцовая моладзь, знаёмыя мастака, былая каханая, а таксама аўтапартрэт.

– Карціна заўсёды аказвае больш моцнае ўздзеянне на чалавека чым фота, – мяркуе мастак. – Бо чалавек укладае ў яе сваю душу, энергетыку. Мастак павінен паказваць людзей такімі, якія яны ёсць: са зморшчынамі на твары, вяснушкамі. Такімі нас стварыла прырода, а значыць, гэта прыгожа.

Выстава ў Ашмянах стала 11-й у творчай біяграфіі мастака. Яго работы бачылі ў Ашмянах, госці "Дажынак" у Мастах, наведнікі "Музея сучасных мастацтваў" у Дрэздэне ў Германіі. Карціны мастака ёсць ва ўласных калекцыях у Кітаі, Літве, Латвіі.

Раней мастак працаваў у розных жанрах, але цяпер вырашыў маляваць толькі партрэты.

### Бацькі не верылі, што мастацтва стане працай

Хлопчык з дзяцінства марыў стаць мастаком. Бацькі заахвочвалі да малявання: куплялі фарбы, пэндзлі, альбомы. Аднак не лічылі, што захапленне сына можа перарасці ў прафесію.

Таму Сцяпан паступіў у сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча на спецыяльнасць "Машыніст-трактарыст" у мястэчку Мір на Гродзеншчыне.

Выкладчыкі гаварылі, што трактарыстам навучэнец усё ж не стане, да гэтай прафесіі ў яго не ляжыць душа.

### Уцякаў з арміі, каб маляваць

Пасля вучылішча Сцяпан Аўсюкевіч служыў у арміі. Яго накіравалі ў марскі флот у Пецярбургу.

Там пазнаёміўся з пецярбуржцам **Ігарам Гарачым**. Яны адразу пасябравалі, бо мелі аднолькавае захапленне – маляванне.

Неаднаразова саслужывец падбіваў Сцяпана на самаволку. У ёй малявалі, абмяркоўвалі сваё захапленне.

– Першы раз малявалі на лісце фанеры, які прынёс Ігар, – гаворыць Сцяпан Аўсюкевіч. – Нават не ведаю, адкуль ён узяў яго. Потым мы добра атрымалі за гэта – сядзелі на камбузе, чысцілі бульбу. Аднак ад самаволак гэта не адвучыла.

### Пасля арміі здзейсніў мару дзяцінства

Прыйшоўшы з арміі, Сцяпан Аўсюкевіч даведаўся, што ў Міры адкрылася мастацкае вучылішча. Ён, не раздумваючы, падаў туды дакументы. Атрымаў дастаткова рэдкую спецыяльнасць – мастак-рэстаўратар каменнага дойлідства.

Доўгі час ён рэстаўраваў алтары ў касцёлах: у Ашмянах, у вёсцы Крэва Смаргонскага раёна, у вёсцы Нарвілішкі, што на мяжы Літвы і Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці.

У аграгарадку Падольца на Астравеччыне рэстаўраваў купал, у які трапіла маланка.

– Праца рэстаўратара цяжкая, – падсумоўвае Сцяпан Аўсюкевіч. – Забірае шмат сіл, здароўя, таму цяпер я ў асноўным малюю.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка "РГ".** Камбуз – памяшканне на суднах, прызначанае для прыгатавання ежы.

СПАЖЫВЕЦ

# Ці залежыць якасць прадуктаў ад упакоўкі?

**Робячы штодзённыя пакупкі, мы часцей выбіраем прадукт, а яго ўпакоўка сыходзіць на іншы план. Але эколагі звяртаюць увагу на тое, што ўпакоўка можа ўплываць на карысныя ўласцівасці прадуктаў.**

Разам з супрацоўнікам па экалагічна дружалюбным ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск) **Дар'яй Чумаковай** карэспандэнт "РГ" зазірнула на прылаўкі беларускіх магазінаў.

## Звяртайце ўвагу на маркіроўку пластыкавай упакоўкі















Такімі сімваламі пазначаны найбольш бяспечны пластык



Пазнака таго, што ў пластыку можна захоўваць ежу

© "Рэгіянальная газета"

Інфаграфіка Насці РОЎДЫ.

### Папера і шкло – на першым месцы

Упакоўкі, якім эколагі адназначна аддаюць першае месца, – шкляныя і папяровыя. У шкляных прадукт будзе захоўвацца доўга, бо шкло не прапускае вільгаць і кісларод, а ежа і напоі захоўваюць свой пах і смак.

Да таго ж, старую шкляную ўпакоўку можна пераплавіць у новую. Гэта эканоміць энергію і прыродныя рэсурсы.

Тое ж тычыцца папяровай упакоўкі: калі яна не надта брудная, яе адпраўляюць на перапрацоўку. Дадатковы плюс – папера дазваляе прадукту "дыхаць", што карысна для пэўных тавараў.

**Каля паловы адходаў на звалках–упакоўкі.**

### Металічная ўпакоўка – не заўсёды добра

У метал часцей за ўсё ўпакоўваюць кансервы – рыбу, мяса, кукурузу, гарошак. У краме варта звяртаць увагу на тое, каб бляшанка была без увагнутасцяў і сколаў, а таксама на тэрмін прыдатнасці. Пашкоджаная тара ці доўгае захоўванне ў ёй – верагоднасць, што ў ежу патрапяць таксічныя элементы.

Пасля таго як вы адкрылі кансервы, прадукт трэба перакласці ў керамічны ці шкляны посуд. Гэта дапаможа пазбегнуць утварэння таксічных элементаў пад уздзеяннем кіслароду.

Што тычыцца алюмініевай тары, у якой прадаецца піва і безалкагольныя напоі, то ад іх эколагі раяць адмовіцца. Па-першае, напой пры піцці трапляе на паверхню бляшанкі, якая дагэтуль збірала на сабе бактэрыі і на складах, і ў краме. Таму разам з напоем у арганізм трапляюць шкодныя мікраарганізмы, што могуць выклікаць розныя хваробы.

Па-другое, у Беларусі няшмат заводаў, якія могуць перапрацоўваць алюмініевую тару. На перапрацоўку алюмінію ідзе значна болей вады і энергіі, чым на такую ж самую працэдуру са шклом.

### Што трэба ведаць пра пластык

Менавіта ў пластык сучасныя вытворцы найчасцей запакоўваюць свой тавар. Аднак ён бывае розных відаў і можа па-рознаму ўздзейнічаць і на чалавека, і на навакольнае асяроддзе. Яго якасці перадае маркіроўка ў выглядзе сімвала, які называецца рэцыклінг. Ён паказвае, што матэрыял прыгодны для перапрацоўкі.

Калі ў цэнтры значка стаяць лічбы 2, 4, 5 ці 7, такі пластык з'яўляецца найбольш бяспечным. Тару з лічбамі 1 і 6 можна выкарыстоўваць толькі адзін раз, з лічбай 3 – не выкарыстоўваць увогуле.

**Эколагі раяць адмовіцца ад выкарыстання любога пластыкавага посуду, калі гаворка пра дзяцей.**

Захоўваць дзіцячыя сокі і пюрэ лепей у шкляных бутэльках і слоіках.

Пакеты для малака робяцца з пластыку №7. Ён лічыцца самым экалагічным, паколькі раскладаецца цягам двух гадоў (звычайны пластык – цягам ста). У ім бяспечна захоўваць прадукты харчавання.

Тэрмін прыдатнасці малака залежыць не ад віду ўпакоўкі, а ад спосабу яго апрацоўкі. Стоячы перад прылаўкам з бутэлькамі, пластыкавымі і кардоннымі пакетамі з малаком трэба памятаць, што на якасць прадукту не ўплывае ніводная з трох відаў упакоўкі. Але ж эколагі раяць набываць тыя, якія пасля можна перапрацаваць, – шкляныя і кардонныя.

– Цяпер упакоўка складае каля 50% усіх адходаў, якія трапляюць на сметніцу, – заўважае Дар'я Чумакова. – Не трэба недаацэньваць яе значэнне: менавіта ўпакоўка дазваляе тавару даехаць да нас у непашкоджаным выглядзе. Але, выбіраючы прадукты, варта выбіраць і ўпакоўку, каб не абвастраць праблему звалак.

### Парады пры выбары ўпакоўкі

1. Па магчымасці выбірайце тавар з найменшай колькасцю ўпакоўкі.
2. Завядзіце палатняныя торбы для паходу па магазінах. Калі пластыкавыя для вас больш зручныя – не набывайце новую кожны раз, а выкарыстоўвайце адну шматкроць.
3. Аддавайце перавагу матэрыялам, якія лёгка перапрацоўваюцца, – шклу і паперы.
4. Калі вы носіце з сабой пітную ваду, не купляйце новую штодзень, а завядзіце бутэлечку з металу або бяспечнага пластыку. У яе наліваўце фільтраваную ці кіпячоную ваду.
5. Пры выбары ўпакоўкі з пластыку лепей выбіраць найменш таксічныя яго віды: 2, 4, 5, 7.
6. Калі пластыкавая ўпакоўка маркіраваная лічбамі 1 ці 6, памятайце – яна толькі для аднаразовага выкарыстання.
7. Па магчымасці набывайце прадукты ў тары вялікага аб'ёму. Так вы і зэканоміце грошы, і прынесіце дамоў менш упакоўкі.
8. Калі ёсць магчымасць, выкідайце пластыкавую ўпакоўку ў спецыяльную сметніцу для пластыку.
9. Для шматразовага выкарыстання і захоўвання прадуктаў выбірайце шкляны, керамічны посуд альбо посуд з нержавеючай сталі, альбо вошчаную паперу.
10. Калі на пластыкавых кантэйнерах з'явіліся драпіны альбо іх паверхня памутнела – тару лепей выкінуць. Яна становіцца небяспечнай, бо існуе вялікая рызыка таго, што таксіны трапяць з пластыку ў ежу.
11. У мікрахвалевую печ стаўце ежу ў шкляным ці керамічным посудзе. Пры награванні пластыку, асабліва разам з тлустай ежай, небяспечныя рэчывы хутка пяройдуць у ежу.

ТЭХНІКА

# Мыем паветра ў сваім доме

**Увільгатняльнікі і мыйкі для паветра – гэта чарговы модны прыбор, без якога можна абысціся, альбо сапраўды карысная рэч?**

– Мыйку для паветра мы купілі зімой, калі ўключылі ацяпленне і батарэі былі такія, што не дакрануцца, – кажа малады тата з Іўянца **Яўген Варакса**. – Паветра праз гэта вельмі сухое. Якраз тады нарадзілася дачка, у яе ноччу закладвала нос. Таму пытанне, ці варта набываць мыйку, у нас не стаяла.

Канструкцыя ў большасці мыек і ўвільгатняльнікаў для паветра вельмі простая. Прыбор ўцягвае паветра, прапускае праз вадзяныя фільтры, а пасля выпускае яго ўжо насычаным парамі вады. Увесь пыл, а таксама пылок з раслінаў, небяспечныя для алергікаў, застаюцца ўнутры прыбора.

Камфортная для чалавека вільготнасць паветра – 60%. Узімку пры ўключаных батарэях паказчык можа апускацца да 10%. Мыйкі цягам дня могуць распыляць у паветра каля 10 літраў вады.

– Спецыяльных замераў мы не рабілі, – працягвае Яўген. – Але па адчуваннях дыхаецца ў пакоі з мыйкай сапраўды лягчэй. А ў дачкі перастала закладваць носік – гэта самы лепшы паказчык.

Ступень увільгатнення можна выбіраць у адпаведнасці з патрабаваннямі канкрэтнай сям'і.

– Галоўнае – не перагінаць палку і карыстацца прыборам у меру, – кажа дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Яўген Лабанаў**. – Калі паветра будзе надта вільготным, у пакоі пачнуць расці цвіль і грыбкі.

Калі вы наліваеце ў мыйку чыстую ваду без усялякіх прымешак, прыбор распыліць яе па кватэры і нічым не нашкодзіць.

Варта быць пільнымі, набываючы мыйку з функцыяй іанізацыі паветра.

– Іоны – гэта актыўныя часціцы, якія ўступаюць у рэакцыі з мікраарганізмамі ў паветры, – тлумачыць эколаг. – У выніку іоны забіваюць не толькі шкодныя мікраарганізмы, але і карысныя.



Старонку 20 падрыхтавала
Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

# Паказанні жыхара гета на допыце 1971 года

## Лазар Мельцар расказвае пра расстрэлы ў валожынскім гета

**ВАЛОЖЫН. Да вайны ў Валожыне жыло больш за дзве тысячы яўрэяў. Большасць з іх знішчылі фашысты. Публікуем серыю матэрыялаў, якія грунтуюцца на сведчаннях відавочцаў трагедыі: паказаннях жыхароў гета, блізкіх ахвяр рэжыму, нямецкіх ваеннапалонных.**

З пратакола допыту ў якасці сведкі валожынца Лазара Мельцара. Допыт праведзены ў Валожыне 15 студзеня 1971 года старшым следчым Камітэта дзяржаўнай бяспекі пры Савеце Міністраў БССР маёрам Шыляевым па даручэнні Пракуратуры СССР у сувязі са зваротам органаў юстыцыі ФРГ аб аказанні прававой дапамогі.

Пераклад з рускай мовы. Са скарачэннямі і падзагалоўкамі рэдакцыі.

“Дапытаў у якасці сведкі Мельцара Лазара Сямёнавіча, які нарадзіўся ў 1923 годзе ў горадзе Валожын Мінскай вобласці, грамадзяніна СССР, яўрэя, з адукацыяй 7 класаў, затэхніка. Жыве ў Валожыне Мінскай вобласці, вул. Кастрычніцкая, дом 22.

Допыт пачаты ў 16 гадзін 00 хвілін.

...Мельцар Л.С. паказаў: у перыяд часовай акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі савецкай Беларусі да восені 1942 года я жыў у г. Валожын, утрымліваўся ў гета, арганізаваным немцамі для яўрэйскага насельніцтва. У гета я быў змешчаны месяцы праз паўтара або два пасля акупацыі.

10 мая 1942 года ў час фізічнага знішчэння савецкіх грамадзян яўрэйскай нацыянальнасці, якія ўтрымліваліся ў валожынскім гета, у мяне атрымалася збегчы. Нейкі час я хаваўся, а пасля зноў трапіў у гета і знаходзіўся ў ім да восені 1942 года.

Восенню 1942 года пры чарговым знішчэнні яўрэяў я схаваўся ў схованцы на тэрыторыі гета. Затым я з гета сышоў і ў Валожын вярнуўся пасля таго, як ён быў вызвалены войскамі Савецкай Арміі. Што тычыцца маіх бацькоў, то яны былі знішчаны 10 мая 1942 года.

Да пачатку Айчыннай вайны ў Валожыне жыло не менш за дзве тысячы яўрэяў. Частка з іх выехала з Валожына ў першыя дні вайны. Асноўная ж маса яўрэйскага насельніцтва засталася ў акупаваным горадзе.

### Дзе месцілася гета

Да пачатку восені 1941 года ў Валожыне немцы арганізавалі гета, у якое прымусова сагналі ўсіх яўрэяў. Пад гета адвялі вуліцы Першамайскую, Кастрычніцкую, Крывую, а таксама правы бок вуліцы Някрасава і левы бок вуліцы Шчарбіны. Рускія сем'і з гэтых вуліц перасялілі.

Тэрыторыя гета была абнесеная плотам і ахоўвалася карнікамі. Яўрэям забаранялася свабодна выходзіць адтуль. За самавольны выхад з гета пагражаў расстрэл. Такі быў загад нямецкага камандавання, які давялі да яўрэяў.

Усе яўрэі хадзілі з меткамі з жоўтага матэрыялу. Меткі былі нашытыя ў вобласці спіны і грудзей. Немцы да яўрэяў ставіліся бязлітасна. Без усякіх прычын збівалі яўрэяў палкамі і бізунамі, а часам тым, што трапляла пад руку. Гэта рабілася на вачах іншых яўрэяў. Збіванню падвяргаліся нават за тое, калі чалавек ідзе па ходніку. Яўрэям жа дазвалялася хадзіць толькі па праезнай частцы вуліц.

Праводзіліся расстрэлы. Было шмат выпадкаў, калі немцы на тэрыторыі яўрэйскага гэта забівалі грамадзян. Сістэматычна праводзіліся рабаванні маёмасці і каштоўнасцяў. Немцы рабілі так. Дадуць тэрмін і загадаюць яўрэям сабраць нейкую колькасць золата і каштоўнасцей. За невыкананне пагражаў расстрэл.

### Як гвалцілі дзяўчат

Здараліся выпадкі, калі карнікі бралі з гета дзяўчат і маладых жанчын, гвалцілі іх, а пасля забівалі. Падобнае здаралася некалькі разоў. Так немцы зрабілі з маладой дзяўчынай па імені Роза. Яна была выведзеная з гета, згвалчаная, і яе знайшлі забітай.

Прозвішчы карнікаў, якія здзейснілі злачынствы над яўрэйскім насельніцтвам, назваць цяжка, але гэта былі немцы, апранутыя ў вайсковую форму зялёнага колеру, якія размаўлялі на нямецкай мове.

### Як расстралялі 200 чалавек

Па першым часе акупацыі расстрэлы праводзіліся ў адзінкавым парадку, а ўжо восенню 1941 года немцы расстралялі вялікую групу яўрэяў — каля двухсот чалавек. Расстрэл праводзіўся 20 кастрычніка 1941 года. У момант расстрэлу гэтай групы яўрэяў я знаходзіўся на працы ў слясарнай майстэрні.

Аднак мне расказвалі пазней, што ў гета ўварваліся немцы і пад выглядам накіравання на працу па ачыстцы казармаў адабралі каля двухсот чалавек, пераважна працаздольных грамадзян, якія маглі выконваць працу. Яны павялі іх да былых польскіх казармаў і расстралялі на стадыёне, гэта недалёка ад казармаў.



Фота Настассі РОЎДА.

**Прыкладна на тым месцы, дзе стаіць чалавек, пахаваныя 200 расстраляных у 1941 годзе яўрэяў. Гэта былы стадыён у Валожыне.**




Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

Відавочцы з жахам казалі, што на месцы расстрэлу было шмат крыві. Расказвалі таксама, што для расстрэлу яўрэяў прыязджалі немцы ці то з мястэчка Бакшты, ці то з іншай мясцовасці і што ў расстрэле ўдзельнічалі немцы, якія размяшчаліся ў Валожыне.

Відавочцамі расстрэлу былі яўрэі, якія пазней таксама былі расстраляныя. У складзе гэтай групы немцы расстралялі майго дзядзьку Мельцара Хону Донавіча, а таксама Гарбера Яню, які да расстрэлу ўтрымліваўся ў гета і ўваходзіў у юдэнрад, г.зн., яўрэйскі савет.

### Другі масавы расстрэл

Другі раз масава расстрэльвалі яўрэйскае насельніцтва ў Валожыне 10 мая 1942 года. Тады расстралялі каля паўтары тысячы чалавек. Можа быць, што гэта не зусім рэальная лічба, аднак, па маіх падліках, атрымліваецца прыкладна такая колькасць.

Расстрэл праводзіўся ў доме былога афіцэра польскай арміі, прозвішча яго не памятаю, на Зялёным пляцы. Дом стаяў на ўскрайку горада, недалёка ад яўрэйскіх могілак. У дзень расстрэлу яўрэяў, раніцай, тэрыторыю гета немцы ўзялі ў ачапленне.

Ачапіўшы гета, немцы прымусова сталі выганяць яўрэяў з дамоў. Чуліся крыкі жанчын і дзяцей. З некаторых дамоў даносілася страляніна. Стралялі і на вуліцы. У дамах расстрэльвалі тых, хто хварэў або быў стары і не мог ісці. Я асабіста бачыў на вуліцы некалькі трупаў расстраляных мужчын і жанчын.

На тэрыторыі гета быў забіты з пісталета мой родны брат Мельцар Дона. Ён быў забіты на маіх вачах толькі за тое, што не зразумеў каманды, пададзенай немцам аб выхадзе з гета. Усіх яўрэяў сагналі ў кавальскі цэх. Будынак цэха быў вялікі, аднак ён быў набіты бітком. У будынак яўрэяў заганялі прымусова, пры гэтым білі прыкладамі зброі, бізунамі, нагамі. Б'ючы, немцы не глядзелі, куды б'юць: па галаве ці па твары.

Я бачыў і перажыў тады ўсе гэтыя жахі. Мяне асабіста немцы білі прыкладамі і палкамі.

Сагнаўшы яўрэяў у кавальскі цэх, немцы адтуль бралі па 10, 15 і 20 чалавек і канваіравалі да дома былога польскага афіцэра. Ці жыў хто ў тым доме ў той час, я не памятаю. Дом быў размешчаны прыкладна ў шасцістах метрах ад будынка кавальскага цэха і ў ста метрах ад яўрэйскіх могілак. Там і расстрэльвалі.

Сам я на месцы расстрэлу не быў. У кавальскім цэху многіх яўрэяў немцы збівалі. Білі палкамі, прыкладамі вінтовак і аўтаматаў. Білі рукамі і нагамі. У маёй прысутнасці быў забіты яўрэй Парэцкі Шахна. Я бачыў, як яго білі і палкамі, і прыкладамі.

Перад тым як брацьв расстрэл, яшчэ ў кавальскім цэху, немцы загадвалі мужчынам, у якіх былі дзягі, здымаць іх і абрываць гузікі ў штанах. Гэта, як мне здаецца, немцы рабілі з той мэтай, каб яўрэі у час канваіравання да месца пакарання не маглі ўцячы.

**Падрыхтаваў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Дзякуем старшаму навуковаму супрацоўніку Вілейскага краязнаўчага музея Вользе КОЛАСАВАЙ за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.**

**Заканчэнне будзе.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# Два галы Баскакава прынеслі перамогу

**СМАРГОНЬ. Пасля пройгрышу ў мінулым туры мікашэвіцкаму "Граніту", 17 жніўня "Смаргонь" перамагла. Гульня з "Віцебскам" завяршылася з лікам 2:1. На стадыёне ў "Смаргоні" сабралася 570 гледачоў.**



Фота fc-smorgon.by.

Павел Баскакаў вырашыў лёс матча.

Гаспадары забілі хуткі гол: на другой хвіліне вызначыўся **Павел Баскакаў**.

– Затым занадта нізка селі, ранавата сталі гуляць па ліку. У выніку чаго ў нас былі праблемы ў абароне, – прызнаў галоўны трэнер "Смаргоні" **Павел Бацюта**.

Але госці аднавілі раўнавагу толькі ў другім тайме, на 62-й хвіліне. Аднак неўзабаве зноў Баскакаў вывеў сваю каманду наперад: на 78-й хвіліне ён забіў вырашальны гол.

– Была канкрэтная камандная гульня, – падзяліўся ўражаннямі ад матча заўзятар "Смаргоні" **Арцём Войтка.** – Баскакаў, наогул, малайчына. Маленькі, хуткі: абарона "Віцебска" проста адпачывала ад яго праходаў.

**– Галоўны трэнер "Віцебска" Сяргей Вехцеў казаў, што ў іх было мноства момантаў і трэба было вырашаць усе пытанні яшчэ ў першым тайме...**

– У нас ёсць варатар **Радзівон Жук**, і гэтым усё сказана. Ён, лічу, лепшы ў чэмпіянаце. Калі б не траўмы, Радзік мог бы быць у нацыянальнай зборнай. Ён аднойчы ратаваў каманду. Увогуле, гульня была роўнай. "Віцебск" мог забіць, але і мы не ўсе моманты рэалізавалі.

**Да ўвагі гледачоў: дамашні матч з клубам "Хімік" са Светлагорска пераносіцца з суботы на нядзелю. Гульня пачнецца 7 верасня а 17 гадзіне.**

Гэта перамога дазволіла "Смаргоні" ўзняцца на сёмае месца ў турнірнай табліцы чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Турнірная табліца:**

| | Футбольны клуб | Г | В | Н | П | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | "Граніт" | 17 | 11 | 4 | 2 | 37 |
| 2. | "Славія" | 17 | 11 | 3 | 3 | 36 |
| 3. | "Рэчыца-2014" | 17 | 9 | 5 | 3 | 32 |
| 4. | "Гарадзея" | 17 | 8 | 6 | 3 | 30 |
| 5. | "Смалявічы-СТІ" | 17 | 8 | 3 | 6 | 27 |
| 6. | "Віцебск" | 17 | 8 | 2 | 7 | 26 |
| **7.** | **"Смаргонь"** | **17** | **8** | **2** | **7** | **26** |
| 8. | "Хімік" | 17 | 7 | 5 | 5 | 26 |
| 9. | "Ліда" | 17 | 8 | 0 | 9 | 24 |
| 10. | "Іслач" | 17 | 6 | 5 | 6 | 23 |
| 11. | "Мінск-2" | 17 | 4 | 5 | 8 | 17 |
| 12. | "Бяроза-2010" | 17 | 4 | 5 | 8 | 17 |
| 13. | "Зорка-БДУ" | 17 | 4 | 2 | 11 | 14 |
| 14. | "Гомельчыгунтранс" | 17 | 3 | 5 | 9 | 14 |
| 15. | "Хваля" | 17 | 3 | 5 | 9 | 14 |
| 16. | "Слонім" | 17 | 2 | 7 | 8 | 13 |

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## ФК "Маладзечна-2013"- "Жыткавічы" – 2:0

**МАЛАДЗЕЧНА. Выязны матч у Жыткавічах скончыўся упэўненай перамогай маладзечанцаў. У выніку клуб займае восьмае месца ў турнірнай табліцы, маючы 22 ачкі.**

Першы гол гледачы ўбачылі на 38-й хвіліне. Лік у гульні адкрыў **Андрэй Лявончык**.

У другой палове гульні футбалісты з Маладзечна адзначыліся другім голам. Мяч у вароты гаспадароў забіў **Прохар Новікаў**.

Андрэй Лявончык застаецца самым выніковым гульцом каманды – на яго рахунку дзесяць забітых мячоў. Да таго ж ён займае чацвертую пазіцыю сярод бамбардзіраў другой лігі ў зоне Б.

Прохар Новікаў – другі па выніковасці футбаліст каманды. Цягам сезона ён забіў пяць мячоў. Другое месца дзяліць разам з **Андрэем Шаблінскім**, на рахунку якога таксама пяць галоў.

### У чэмпіянаце стала на адну каманду менш

Футбольны клуб "Партызан-2002" з Мінска прыпыніў свой удзел у чэмпіянаце другой лігі. Пра гэта паведамляе Беларуская федэрацыя футбола.

Каманда не змагла дайсці да канца сезона з-за цяжкага фінансавага становішча.

Менавіта з "Партызанам" маладзечанцы павінны былі правесці матч на гэтыя выхадныя, таму каманда прапускае наступны тур гульняў. У выніку "Маладзечна-2013" атрымае тэхнічную перамогу з лікам 3:0.

Бліжэйшы матч маладзечанцаў можна будзе паглядзець у Мінску 31 жніўня, а на дамашнім стадыёне – 6 верасня, калі ў Маладзечна прыедзе футбольны клуб "Тарпеда".

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Турнірная табліца:**

| | Футбольны клуб | Г | В | Н | П | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | "Баранавічы" | 16 | 10 | 5 | 1 | 35 |
| 2. | "Узда" | 17 | 10 | 3 | 4 | 33 |
| 3. | "Тарпеда" (Мінск) | 17 | 8 | 5 | 4 | 29 |
| 4. | "Крумкачы" (Мінск) | 17 | 9 | 1 | 7 | 28 |
| 5. | "Кобрын" | 16 | 9 | 0 | 7 | 27 |
| 6. | "Нёман" (Масты) | 17 | 8 | 3 | 6 | 27 |
| 7. | "Клецк" | 17 | 6 | 4 | 7 | 22 |
| **8.** | **"Маладзечна-2013"** | **17** | **7** | **1** | **9** | **22** |
| 9 | "Лівадзія" (Дзяржынск) | 17 | 6 | 3 | 8 | 21 |
| 10. | "Партызан-2002" (Мінск) | 17 | 5 | 3 | 9 | 18 |
| 11. | "Колас" (Баранавіцкі раён) | 17 | 4 | 2 | 11 | 14 |
| 12. | "Жыткавічы" | 17 | 3 | 2 | 12 | 11 |

● НАВІНЫ

## "Забудова-2007" забіла сем галоў

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН.** У суботу, 16 жніўня, прайшлі амаль усе гульні пятнаццатага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" у гасцях прайграла камандзе "Крупкі-ДРБУ-164" 1:2.

"Забудова-2007" з лёгкасцю перамагла "Беразіно" 7:2. Па два галы ў каманды з Чысці забілі **Астэртах і Працкевіч**.

Каманда "Валожын-2010" не з'явілася на гульню ў гасцях са "СМІ-аўтатрансам". Валожынцам залічанае тэхнічнае паражэнне з лікам 0:3.

Нягледзячы на пройгрыш, "Маладзечна-ДЮСШ-4" засталося на першым месцы ў групе "А". Аднак да яго наблізіліся праследнікі: "Жодзіна-2007" адстае толькі на адно ачко.

"Забудова-2007" знаходзіцца на пятым, "Вілія" – на шостым месцы. "Валожын-2010" трывала замацаваўся на апошнім, дзясятым, месцы.

## "Вілія" згуляла ўнічыю

**ВІЛЕЙКА.** "Вілія" свой матч у чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе правяла 17 жніўня. Вілейчане дома прымалі ФК "Барысаў" – каманду, якая ідзе на трэцім месцы. Матч завяршыўся ўнічыю 2:2.

– Мы першымі прапусцілі гол, – расказвае капітан "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Ужо ў першым тайме зраўнялі лік. І яшчэ былі моманты, каб забіць. Другі тайм таксама пачалі актыўна. **Віктар Сяліцкі** забіў свой другі гол у матчы. Гэта было дзесьці за 20 хвілін да канца сустрэчы. Пачалі гуляць на ўтрыманне ліку. Маглі забіць яшчэ, не выйшлі адзін на адзін. А праз хвілін пяць пасля гэтага забілі ужо нам. Заставалася яшчэ хвілін 10 да фінальнага свістка, але лік не змяніўся. Так хацелі і маглі перамагчы ў гэтым матчы, але не атрымалася.

## Дзве гульні па 5:1

**ВІЛЕЙКА.** Дзве гульні чэмпіянату раёна па футболе 16 жніўня завяршыліся з аднолькавым лікам. "Чурлёны" перамагі "Вязынь", а "Першы Беларускі" адолеў "Шылавічы" з лікам 5:1.

У чэмпіянаце лідзіруе "Першы Беларускі", паведаміў старшыня раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. У каманды 15 ачкоў пасля шасці гульняў. У "Мехатронікі" – 12 ачкоў, але каманда правяла на адну гульню менш.

## Мядзельскія дуэты сталі лепшымі ў Астраўцы

**АСТРАВЕЦ. МЯДЗЕЛ.** У Астраўцы 10 жніўня прайшлі міжраённыя спаборніцтвы па пляжным валейболе сярод мужчынскіх камандаў.



Фота забяспечана Міхаілам ЧАРКАСАВЫМ.

Мядзельскія валейбалісты занялі першае і другое месцы: Кірыл Самуленкаў, Яўген Ардынец, Андрэй Русак, Аляксей Капусцін.

Аспрэчвалі званне найлепшай 12 камандаў. Былі яны з Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага і Мядзельскага раёнаў.

Два першыя месцы на турніры занялі дуэты з Мядзела. Перамагла каманда "Нептун-1". У яе складзе – **Аляксей Капусцін і Андрэй Русак**, паведаміў кіраўнік мядзельскіх камандаў **Міхаіл Чаркасаў**.

Другое месца на рахунку **Яўгена Ардынца і Кірыла Самуленкава** ("Нептун-2").

Узнагароджаныя мядзяльчане кубкамі, медалямі і грашовымі прэміямі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Чаму дружыннікі на маладзечанскай чыгунцы не паказваюць пасведчанні пасажырам

Хай бы мяне хоць адзін такі паспрабаваў спыніць! Няма дакументаў – ідзі... куды-небудзь! Сёння прыйду дамоў, парэжу свае чырвоныя труселі, зраблю павязку і заўтра пайду па электрычцы кантралёрам хадзіць. Хто гэта прыдумаў? Няўжо хтосьці верыць і прад'яўляе білеты? У мяне такія спрабавалі падчас язды праверыць білет і надарваць (як быццам усё ў парадку), на што былі адпраўленыя да таго моманту, пакуль у іх не з'явіўся кампосцер і пасведчанне. ***Я.***

Падтрымліваю ініцыятыву па знаходжанні безбілетнікаў. І не разумею тых, хто гэтым абураецца, няўжо так цяжка паказаць свой білет, калі вы законапаслухмяны грамадзянін? Там няма ніякай сакрэтнай інфармацыі пра вас. А тыя, хто не хоча паказваць білет дружыннікам, – людзі, якім заўсёды абы паабурацца, яны вечна чымсьці незадаволеныя. Кантралююць аплату праезду – кепска, не кантралююць – зноў абураюцца, кажучы, чаму я плачу, а хтосьці не... ***Ірына.***

### ФК "Маладзечна-2013" перамог "Жыткавічы" – 2:0

Гульня 24 жніўня не адбудзецца з-за дыскваліфікацыі ФК "Партызан" ва ўдзельніцтве ў чэмпіянаце па фінансавых абставінах. Такім чынам, мы атрымаем тэхнічную перамогу 3-0, а наступная дамашняя гульня толькі 6 верасня супраць "Тарпеда" (Мн.) ***Андрэй.***

### Работнікі МНС расказваюць, як ратавалі гаспадара кватэры ў Маладзечне

Ніхто мне жыццё не ратаваў. Я сам выйшаў з кватэры і літаральна праз некалькі хвілін прыбеглі супрацоўнікі МНС. Сведкі таму – жыхары дома. Навошта пісаць, а тым больш расказваць тое, чаго не было? Але як бы ні было – вялізны дзякуй супрацоўнікам МНС і медыцынскім работнікам за іх прафесійныя дзеянні. Поспехаў усім! ***Kerbich.***



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 4 | | 8 |
| | 1 | | 6 | 7 | | 5 | | |
| | | 8 | | 3 | | | 7 | |
| 8 | | | | | 4 | | 6 | 5 |
| | 9 | | | | | | 8 | |
| 1 | 6 | | 9 | | | | | 7 |
| | 3 | | | 4 | | 7 | | |
| | | 2 | | 6 | 9 | | 1 | |
| 6 | | 1 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Насассі РОЎДЫ.

Сабака пільнуе машыну, пакуль гаспадар у гандлёвым цэнтры.

## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Крымінальны трылер, баявік "**Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць**", 3D (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
22-24 жніўня – у 21:00
25 жніўня – у 18:30
26, 27 жніўня – у 21:00
28 жніўня – у 18:30
Кошт білета: 50 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Таямніца чатырох прынцэс**", 3D (Расія, 2014, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 жніўня – у 16:30
23, 24 жніўня – у 14:30
Кошт білета: 30 000 рублёў

Трылер, баявік "**Насустрач шторму**" (ЗША, 2014, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
23 жніўня – у 16:30
24 жніўня – у 9:00
27, 28 жніўня – у 16:30
Кошт білета: 45 000 рублёў

Фантастычны баявік, прыгоды "**Чарапашкі-ніндзя**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22, 23 жніўня – у 18:30
24 жніўня – у 16:30
25 жніўня – у 21:00
26, 27 жніўня – у 18:30
Кошт білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Нястрымныя 3**" (ЗША, Францыя, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
28 жніўня – у 21:00

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
22 жніўня – у 16:00
23, 24 жніўня – у 15:00
Кошт білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
26, 27 жніўня – у 16:00
28 жніўня – у 16:30
Кошт білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22-24 жніўня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Піцер. Лета. Каханне**" (Расія, Вялікабрытанія 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22-24 жніўня – у 19:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Экзамен для дваіх**" (ЗША, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
26, 27 жніўня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя "**Сямейка вампіраў**" (Германія, 2012, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 жніўня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік "**Пампеі**" (Канада, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22, 23, 24 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Тайна перавалу Дзятлава**" (Расія, ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
22, 23, 24 жніўня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
23, 24 жніўня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Гэтай раніцай у Нью-Ёрку**" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27, 28 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Цудоўныя стварэнні**" (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
27, 28 жніўня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ГАРАСКОП (22-28 ЖНІЎНЯ)


**Авен.** Пастарайцеся не забыць, што дабрыня – гэта багацце. У вас шмат ідэй, сябры падтрымаюць вашы ідэі, і гэта дасць вам упэўненасць ва ўласных сілах.


**Цялец.** Гэты перыяд стане трамплінам да поспеху не толькі ў прафесійным, але ў асабістым плане. Так трымаць! Жаданне пазнаваць новае, вучыцца, рознабаковыя інтарэсы – ваша засцярога і зброя ў штодзённай мітусні.


**Блізняты.** Нешта вы надта спяшаецеся! Жыць трэба крыху павольней, інакш у спешцы можна наламаць дроў.


**Рак.** Гэты перыяд ні дрэнны, ні добры – ён важны, і самае галоўнае, цяпер не зоркі кіруюць вамі, а вы зоркамі.


**Леў.** Каб пазбегнуць крыўдаў ваšай другой палавінкі, старайцеся падоўгу не размаўляць па тэлефоне з сябрамі ці знаёмымі ў яго (яе) прысутнасці ці заседжвацца за камп'ютарам.


**Дзева.** У дзяцей могуць паўстаць пэўныя праблемы: ім сапраўды спатрэбіцца ваша дапамога, не спісвайце гэта на простыя капрызы.


**Шалі.** Не ўспрымайце ўсё так драматычна. Вучыцеся кожны дзень знаходзіць нешта радаснае і прыгожае.


**Скарпіён.** Калі кагосьці не звязваюць сур'ёзныя адносіны з мужчынам, гэта не прычына, каб скардзіцца на лёс і лічыць сябе нікому не патрэбнай. У адзіноцтве так шмат магчымасцяў.


**Стралец.** Настае спрыяльны момант для сур'ёзнага жыццёвага выбару. Можа ўзнікнуць сітуацыя, якая дапаможа разабрацца ў людзях, з якімі працуеце, сябруеце.


**Казярог.** Не думайце, што вам пад сілу змяніць нежаданыя павадзіны партнёра, яго характар. Лепш задумайцеся, ці гатовы вы змірыцца з яго недахопамі.


**Вадалей.** Мы сваливать не вправе Вину свою на жизнь. Кто едет, тот и правит, Поехал – так держись! Радкі Мікалая Рубцова можна назваць эпіграфам гэтага часу. Праз перашкоды будуць з'яўляцца новыя сілы.


**Рыбы.** Вядома, ніхто не вырашыць праблемы за вас, але вы можаце скарыстацца перспектывамі, якія прапануе вышэйшая сіла. Менавіта на працы вам будзе дадзены рэальны выпадак даказаць усім, што вы з'яўляецеся выдатным работнікам.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

**23 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 / +18 | | +11 / +19 | | +13 / +20 | | +12 / +15 | |
| | 742 | ↘ 1 | 742 | ↖ 5 | 736 | ← 4 | 737 | → 4 |
| Вільня | +8 / +19 | | +12 / +20 | | +13 / +18 | | +11 / +16 | |
| | 750 | → 2 | 748 | ↑ 5 | 747 | ↑ 3 | 745 | → 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.04
Захад 20.25
Даўжыня дня 14.21

Усход 3.54
Захад 19.03
Квадра 4




## ПРЫКМЕТЫ

- На Лаўрэна (23 жніўня) некалі глядзелі апоўдні на ваду: калі яна ціхая, то і восень чакалася ціхая, а зіма без завірух.
- Прачыстая, Спажа (28 жніўня). Пачатак маладога бабінага лета (да 11 верасня).

## Чытайце праз тыдзень:

- **Стомленая спіна, зацёкшая шыя – стан, знаёмы офісным работнікам. У наступным нумары "РГ" чытайце пра тое, якія практыкаванні можна рабіць, не сыходзячы з працоўнага месца.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ І МЯДЗЕЛЕ

## Ці варта аддаваць мільярды рублёў на помнікі гісторыі і культуры?



**Сяргей Ганчар, дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея:**

– Абавязкова. Бо гэта – наша спадчына. А хто не памятае мінулае, той не мае будучыні. Кожны чалавек захоўвае спадчыну ад сваіх бацькоў, то чаму ён не павінны захоўваць і спадчыну сваёй гісторыі.



**Юлія Казлова, Мядзел, знаходзіцца ў адпачынку па доглядзе за дзіцем:**

– На мой погляд, варта – асабліва на помнікі архітэктуры. Гэтак зможам захаваць іх і перадаць у спадчыну дзецям і ўнукам.



**Дзяніс Канецкі, кіраўнік вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў:**

– Выдаткоўваць грошы трэба, улічваючы многае. Напрыклад, Лідскі замак варты рэстаўрацыі. Але тое, як яе зрабілі – выкінутыя грошы. Нядаўна згарэў стогадовы дом. Яго не рэстаўраваў бы: нецікавы ні па архітэктуры, ні як турыстычны аб'ект.



**Уладзімір Альфер, жыхар Вілейкі:**

– Варта. Не маючы гісторыі, прадметаў гэтай гісторыі, не можа быць нацыі. Трэба даражыць тым, што захавалася. І новыя помнікі чаму б не ўзводзіць: ва ўсе часы яны з'яўляліся. Іншае пытанне, што ў нас шмат засталося помнікаў з часоў СССР, якія не маюць агульнага з Беларуссю.



**Іосіф Падрэз, Мядзел, работнік газавай гаспадаркі:**

– Абавязкова трэба ўкладаць грошы ў рэстаўрацыю помнікаў. Бо мы павінны ведаць нашу гісторыю і культуру.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Дыспут на гэту тэму чытайце на 6-й старонцы.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 34 (1008) 22.08.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 697. Падпісана ў друк у 10.00 21.08.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.